# ПРАВА ВЕСНІК АБАРОНЧЫ

ЛІПЕНЬ, **2011**

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



**Праваабаронцу асудзілі за тое, што ён быццам лаяўся матам на вуліцы**

СТАР. 3

**Гомельскі флэшмобер правядзе месяц у ізалятары**

СТАР. 4


## “УСЮ ГЭТУЮ ДЗЕЮ НАЗВАЦЬ ПРАВАСУДДЗЕМ ВЕЛЬМІ ЦЯЖКА”



Праваабарончы цэнтар “Вясна” заяўляе аб падтрымцы і салідарнасьці з рэгіянальнымі актывістамі, затрыманымі пры выкананьні прафесійных абавязкаў падчас акцый маўклівага пратэсту па ўсёй Беларусі.
Аляксей Лапіцкі з Жодзіна быў затрыманы на акцыі 29 чэрвеня са складаннем пратаколу за непадпарадкаваньне законным патрабаваньням міліцыі (арт. 23.4 КаАП РБ). На наступны дзень суд прысудзіў Алесю Лапіцкаму 5 сутак арышту. Гомельскі праваабаронца Анатоль Паплаўны быў затрыманы на акцыі 3 ліпеня і пакараны 15 суткамі арышту за дробнае хуліганства (арт. 17.1 КаАП РБ). У той самы дзень у Магілёве быў затрыманы праваабаронца Барыс Бухель. У яго адабралі мабільны тэлефон і выдалілі фотаздымкі з акцыі. Яшчэ раз спадара Бухеля затрымалі 7 ліпеня, на наступны дзень пасьля чарговай акцыі. Праваабаронца зьмешчаны ў ізалятар.

**Юрыст ПЦ “Вясна” Валянцін Стэфановіч 23 чэрвеня назіраў за разглядам некаторых адміністратыўных справаў затрыманых падчас акцыі маўклівага пратэсту.**

Праваабаронца прысутнічаў у судзе Савецкага раёну Менску на працэсах, якія вяла суддзя Аксана Рэлява. Прааналізаваўшы вынікі разгляду аналагічных адміністратыўных справаў у іншых райсудах сталіцы 22 чэрвеня, ён адзначае некаторыя агульныя тэндэнцыі. Па-першае, звяртае ўвагу Валянцін Стэфановіч, усе затрыманыя абвінавачваліся па адным артыкуле - артыкуле 17.1 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях “Дробнае хуліганства”.

*- Паводле рапартаў і пратаколаў аб адміністратыўных правапарушэннях, складзеных на гэтых грамадзянаў, усе яны “ругались матом на проходящих мимо граждан у дома № 23 на проспекте Независимости”. Атрымліваецца, што яны масава лаяліся матам у адным месцы. Толькі штосьці я гэтага там, на праспекце, не заўважыў,* - кажа праваабаронца.

Ён адзначае, што цікавая сама кваліфікацыя правапарушэнняў па арт. 17.1 “Дробнае хуліганства”:

*- Такая кваліфікацыя невыпадковая, бо цалкам кладзецца ў ідэалагічную канцэпцыю ўладаў, якая зараз актыўна агучваецца: удзельнікі акцыі выключна моладзь на падпітку, якая выйшла і пляскала ў далоні. Гэта як у СССР супраць савецкай улады выступалі толькі вар'яты, то зараз супраць сённяшняй улады толькі п'яныя, а астатнія ўсім задаволеныя. Таму, відаць, артыкул 17.1 тут і з'яўляецца мала таго, што усе п'яныя, дык яшчэ і матам лаяцца, - мяркуе юрыст. А наконт п'яных трэба сказаць, што ні ў адным пратаколе не было адзначана, што людзі знаходзіліся ў нецвярозым стане.*

Стэфановіч адзначае яшчэ адну верагодную прычыну прымянення да артыкула “Дробнае хуліганства”:

*- Мяркую, што гэта невыпадкова яшчэ і таму, што па Законе “Аб масавых мерапрыемствах” вельмі цяжка даказваць віну гэтых людзей у парушэнні гэтага закона. То бок, калі чалавек сам не кажа, што ён пэўным чынам у дадзеным выпадку пляскаючы ў далоні - выказваў сваё стаўленне да чагосьці, то гэта цяжка даказаць. Цяжар даказвання, як вядома, у адміністратыўным працэсе кладзецца на органы, якія прыцягваюць чалавека да адміністратыўнай адказнасці. То бок, супрацоўнікі міліцыі павінны сказаць, што чалавек парушыў, выходзячы на вуліцу і пляскаючы ў далоні. Таму яны пайшлі па шляху ужо напрацаванаму артыкул 17.1 і “лаяліся матам”.*
*Памеры штрафаў, якімі 23 чэрвеня былі пакараныя затрыманыя падчас “маўклівай” акцыі, вагаліся ад 20 да 30 базавых велічыняў, то бок 700 тысяч 1 мільён 50 тысяч рублёў. Аднак некаторых грамадзянаў суддзі пакаралі дзвюмя базавымі велічынямі штрафу, прымяніўшы артыкул 6.5 КаАП, пункт 6. Як тлумачыць юрыст, гэты артыкул дазваляе суддзі выкарыстаць мінімальны памер штрафу, устаноўлены санкцыяй артыкула у выпадку, калі чалавек прызнае сябе вінаватым і выказвае гатоўнасць да ўплаты гэтага штрафу.*

І тут Валянцін Стэфановіч адзначае выбарнасць прымянення такога артыкула судамі:

*- Пасля падзеяў 19 снежня мінулага году, калі мы людзям рыхтавалі пісьмовыя хадайніцтвы ў суд з просьбай прымяніць такі артыкул (то бок, людзі казалі, што прызнаюць сябе вінаватымі, выказваюць жаданне выплаціць штраф і просяць пакараць іх мінімальным памерам штрафу, устаноўленым часткай 1 артыкула 23.34) суды гэта ігнаравалі, выносілі адміністратыўныя арышты. То бок, артыкул гэты не прымяняўся. А ў дадзеным выпадку - калі ўладам выгодна, каб людзі прызнавалі сябе вінаватымі пад пагрозай адміністратыўнага арышту да 15-ці сутак суды гэты артыкул выкарыстоўваюць.*

**(працяг на 2 стр.)**

# Валянцін Стэфановіч: «Усю гэтую дзею назваць правасуддзем вельмі цяжка»

(пачатак на 1 стр.)



На працэсах, дзе прысутнічаў Валянцін Стэфановіч, два чалавекі, Сяргей Майшук і Леанід Холад, пагадзіліся з пратаколамі і з абвінавачваннямі, высунутымі супраць іх.

*- Майшук Сяргей пры гэтым у судзе патлумачыў, што ён насамрэч гэта адміністратыўнае правапарушэнне не здзяйсняў і матам не лаяўся,бо такой звычкі не мае і мае вышэйшую адукацыю. Але ён дадаў, што калі так у пратаколе напісана, то з гэтым пагаджаецца. Пры такіх абставінах суддзя павінна была ўстанавіць ісціну па справе: усё ж было здзейснена правапарушэнне ці не было. Таму што гэта выглядала, як вымушанае прызнанне сваёй віны. Але, як вельмі слушна заўважыў спадар Майшук на пытанне суддзі, прызнае ён сваю віну ці не прызнае  што гэта зменіць? Пасля суду ў інтэрв'ю журналістам ён яшчэ раз паўтарыў, што, канешне ж, не здзяйсняў гэтага правапарушэння*, - распавядае юрыст.

Грамадзяне, якія віны сваёй не прызнавалі, атрымалі штрафы ў 20 і 30 базавых велічыняў. І ў дадзеным выпадку В.Стэфановіч звяртае ўвагу на тое, што суддзя не прымяняла ніякіх мераў для ўстанаўлення ісціны па справе  не выклікала ў працэс ніводнага сведкі, якія былі указаныя у пратаколах аб адмінстратыўных правапарушэннях і сведчылі, што затрыманыя "ругались нецензурной бранью возле дома № 23". Таксама юрыст адзначае, што ў Савецкім райсудзе ў якасці пакарання нікому не выносіўся адміністратыўны арышт. Ён мяркуе, што было такое указанне зверху, тым больш што такая ж карціна назіралася і па іншых райсудах.
У прынцыпе ўсю гэту дзею назваць правасуддзем вельмі цяжка, канстатуе юрыст і заўважае яшчэ адну тэндэнцыю:

*- Да гэтай акцыі ўлады відавочна рыхтаваліся. І можна ўзгадаць нядаўнюю прэс-канферэнцыю Лукашэнкі, калі ён указваў міністру унутраных справаў, што такіх акцыяў у цэнтры горада больш не пацерпіць і што той можа застацца без пагонаў, калі такія акцыі яшчэ пройдуць. Ён меў на ўвазе "Стоп бензін" і гэтыя "маўклівыя" акцыі. І тое, што паказвалі па ТВ і пісаў ГУУС у інтэрнэце, сведчыць, што ўлады вялікае значэнне надалі гэтым акцыям, іх сапраўды напалохала тое, што пратэсты выказваюцца не толькі ў Менску, а па ўсёй краіне. Улады выдатна ведаюць досвед краінаў Бліжняга Усходу, дзе ўсе рэвалюцыі пачыналіся фактычна з рэчаў такога кшталту.*

В.Стэфановіч называе такую рэакцыю ўладаў абсалютна няўклюднай і лічыць, што гэтыя іх дзеянні не мелі поспеху.

У судзе спадар Паплаўны выказаў меркаваньне, што міліцыянтам не спадабалася ня толькі тое, што ён рабіў фотаздымкі, але і ягоная беларускамоўная гутарка.
Грыцкоў: «Дадзены грамадзянін выражаўся лаянкай у грамадзкім месцы».
Паплаўны: «Паглядзіце мне ў вочы! Як вам ня сорамна - ні перад Богам, ні перад судзьдзёй. Гэта ж трэба так хлусіць! Адкуль жа тады будзе давер да міліцыі?».Судзьдзя: «Толькі лаяўся? Крычаў моцна?».Грыцкоў: «Так. Там у рапарце ўсё напісана».

# ВЫРАЖАЎСЯ

І хоць міліцыянты блыталіся ў сваіх сьведчаньнях, няўпэўнена казалі пра лаянку, судзьдзя Алена Цалкова пакарала праваабаронцу шматдзённым арыштам.

На волю палітычны зняволены выйдзе толькі ўвечары 18 ліпеня (панядзелак). Супраць праваабаронцы у судзе ілжэсведчыў камандзір узводу палку патрульна-паставой службы міліцыі, маёр Юры Грыцкоў, сцьвярджаючы што ён нецэнзурна лаяўся падчас народнай акцыі. Што думаюць сябры і знаёмыя аб абвінавачванні праваабаронцы?

**Віктар Казлоў**, кіраўнік гомельскага прадстаўніцтва прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) па Гомельскай вобласці:

- Ведаючы Анатоля Паплаўнага не адзін год, я не магу ўявіць, што ён мог 3 ліпеня ў дзень незалежнасці на плошчы Леніна лаяцца матам. Анатоль ў побыце заўсёды размаўляе на беларускай мове і маючы зносіны з ім я сам мімаволі пераходзіў на беларускую. Я проста ўпэўнены, што Анатоль ішоў на плошчу свядома, пры гэтым выдатна разумеючы, што правакаваць людзей у форме ніяк нельга. Можа беларускую мову міліцыя прыняла за мацерную?

**Уладзімір Кацора**, каардынатар кампаніі «За справядлівыя выбары» па Гомельскай вобласці:

-  Усім вядома, у якой акцыі ўдзельнічаў Анатоль. А паколькі гэтая акцыя фармальна не падпадае пад парушэнне нормаў закона "Аб масавых мерапрыемствах", то ёсць іншыя спосабы пакарання. Для ўлады і міліцыі не мае значэння, лаяўся Паплаўны матам ці не, ён павінен адказаць.

**Кацярына Гаравая**, актывістка прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП):

- Я ведаю Анатоля Паплаўнага шмат гадоў, ён вельмі выхаваны чалавек, які да таго ж заўсёды размаўляе на роднай беларускай мове. Таму міліцэйскае абвінавачваньне ў мацюкальных выразах выглядае поўным абсурдам. Падобныя абвінавачаньні міліцыя заўсёды прад'яўляе аппазіцыі, калі патрабуецца іх на некаторы час ізаляваць. Некампетэнтнасць і тое бязмежжа, якія ладзяць супрацоўнікі міліцыі па ўказцы ўлады яшчэ больш злуе людзей, якія пратэстуюць супраць палітыкі ўлады.

**Адам Варанец**, кіраўнік Руху "За Свабоду» па Добрушкаму раёну:

 - Ведаю Анатоля як аднаго з нешматлікіх дэмакратычных актывістаў, які ў паўсядзённым жыцці заўсёды размаўляе на беларускай мове. Я ніколі ў жыцці не чуў ад яго мацюкоў.
 - Упэўнены, ён не мог на плошчы выяўляцца нецэнзурна. Тое, што кажа ў судзе міліцыя няхай застанецца на іх сумленні. Наконт суду скажу так - суддзі ў нас выконваюць тое, што ім загадаюць зверху.

# ЛАЯНКАЙ, ВЕК ВОЛІ НЕ ВІДАЦЬ!



**Андрэй Толчын**, старшыня Гомельскай гарадской арганізацыі Аб"яднанай грамадзянскай партыі (АГП):

- Ведаю Анатоля ўжо каля 20 гадоў і ніколі не чуў ад яго брудных слоў ня толькі у грамадзкіх месцах, але і наогул. Тым больш даводзілася з ім быць у розных жыццевых абставінах. Відавочна, что ён арыштаваны па ілжывых, сфальсіфікаваных пратаколах так званых органаў “правапарадку”. На жаль у нашай краіне стала ўжо нормай, калі камусьці з улады не спадабаецца грамаддзянін сваей грамадзкай пазіцыяй, то яго проста арыштоўваюць па свавольству, па нейкіх дзіўных парушэннях, прыраўніваючы да нейкіх хуліганаў альбо крымінальнікаў. Прыкра назіраць, што “органы”, якія існуюць за грошы падаткаплацельчыкаў ставяць сабе вышэй за закон і самі з'яўляюцца ініцыятарамі яго парушэння. Усе падобныя дзеянні нагадваюць стужкі пра вайну, калі паліцаі разам з эсэсаўцамі на акупаванай тэрыторыі праводзілі аблавы на мірных грамадзян. Раю ім напомніць, што ў свой час у 1967 годзе у Гомельскім аблдрамтэатры быў ужо адкрыты судовы працэс над удзельнікамі зондеркамады 10-а, якія таксама казалі, што выконвалі загад, але прысуд быў суровы. Таму звяртаюся да сілавікоў - як вы будзеце жыць у горадзе, калі ўлада зменіцца?

**Леанід Судаленка**, прававы інспектар прафсаюзу работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) па Гомельскай вобласці:

- Як я ўжо неаднойчы казаў, аб разглядзе адміністрацыйнай справы ў судзе падрабязна спыняцца не варта. Мне ўспамінаецца выпадак, калі на суд аднаго з грамадскіх актывістаў, які абвінавачваўся ў дробным хуліганстве з'явілася каля дваццаці яго калегаў. Пакуль мы праходзілі пашпартную працэдуру на пасту міліцыі і потым падняліся на другі паверх, мой калега атрымаў ужо сем сутак адміністрацыйнага арышту. Суд доўжыўся не больш трох хвілін. Супраць майго калегі Анатоля Паплаўнага у судзе хлусілі (ілжэсведчылі) супрацоўнікі міліцыі, супраць якіх праваабарончая супольнасць Беларусі яшчэ не выпрацавала спосабаў абароны. Сам факт «хуліганкі» эфектыўна ўжо абскардзіць не атрымаецца ні ў вышэйстаячых судах, ні ў пракуратуры. А вось падаць скаргу аб адсутнасці справядлівага судовага разбору кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом цалкам можна.

**Уладзімір Няпомняшчых**, пенсіянер МУС:

- Ніколі не паверу, што Анатоль Паплаўны мог лаяцца матам. Ён кажа выключна на беларускай мове, якая не ведае мацюкоў. Высунутыя супраць яго абвінавачванні - гэта проста нахабная хлусня! У міліцыі ў цяперашні час працуюць непрыстойным людзі, гэта я кажу як пенсіянер МУС. У іх ёсць з каго прыклад браць, гэта значыць, улада ўвесь час хлусіць, выкручвацца, вінаватыя ўсе акрамя іх, таму Анатоля ізалявалі. Улады баяцца народнага гневу, яны проста гэтым хочуць збіць пратэстныя настроі ў грамадстве. А суд у нас залежны ад улады, а дакладней ад так званага прэзідэнта А. Лукашэнкі, загадаюць, ён і вышэйшую меру дасць!

**асабістая інфармацыя рэдакцыі сайту gomelspring.org**

## СПІС АКТЫВІСТАЎ ГОМЕЛЬСКАГА РЭГІЁНУ, ПАКАРАНЫХ ЗА ЎДЗЕЛ У НАРОДНЫХ АКЦЫЯХ

*Чэрвень 16* - **Чуяшкоў Раман Аляксандравіч**, звольнены з працы пажарнага Жлобінскага МНС за ўдзел у народнай акцыі.

*Чэрвень 17* - **Усціменка Руслан Аляксандравіч** - суддзя суду Цэнтральнага раёна г. Гомеля Алена Цалкова прысудзіла 25 базавых велічынь адміністрацыйнага штрафу за ўдзел у народнай акцыі.

*Чэрвень 30* - **1. Яўген Лапанаў** (Добруш) - суддзя Чыгуначнага раёна Гомеля Яраслаў Парэмскі прысудзіў 7 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у народнай акцыі. **2. Пётр Філон** - суд Савецкага раёна г. Гомеля - 3 базавыя велічыні адміністрацыйнага штрафу за надпісы, зробленыя ў сацыяльных сетках Інтэрнэт.

*Ліпень 1* - **Зміцер Дашкевіч** - суд Рагачоўскага раёна прысудзіў 5 сутак адміністрацыйнага арышту напярэдадні народнай акцыі.

*Ліпень 2* - **1. Цянюта Андрэй Анатольевіч** - суд Цэнтральнага раёна Гомеля прысудзіў 5 сутак адміністрацыйнага арышту напярэдадні народнай акцыі. **2. Прывалаў Павел** - суд Цэнтральнага раёна Гомеля прысудзіў 5 сутак адміністрацыйнага арышту напярэдадні народнай акцыі.

*Ліпень 4* - **1. Паплаўны Анатоль Уладзіміравіч** - суд Цэнтральнага раёна г. Гомеля прысудзіў 15 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у народнай акцыі. **2. Усціменка Руслан Аляксандравіч** - суддзя суду Цэнтральнага раёна г. Гомеля Алена Цалкова прысудзіла 15 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у народнай акцыі. **3. Такарэнка Васіль** - суд Цэнтральнага раёна г. Гомеля прысудзіў 15 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у народнай акцыі. **4. Галіна Стараселец** (Светлагорск) - суд Цэнтральнага раёна г. Гомеля прысудзіў 3 базавыя велічыні штрафу за ўдзел у народнай акцыі. 5. **Валер Рыбчанка** (Жлобін) - суд Жлобінскага раёна прысудзіў 15 сутак адміністрацыйнага арышту за раздачу інфармацыйных улётак аб народных акцыях у дзень незалежнасці. **6. Алег Кастусёў** (Жлобін) - суд Жлобінскага раёна прысудзіў 15 сутак адміністрацыйнага арышту за раздачу інфармацыйных улётак гараджанам аб народных акцыях у дзень незалежнасці. **7. Дзмітрый Сцепанец** - суддзя суду Цэнтральнага раёна г. Гомеля Алена Цалкова прысудзіла 2 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у народнай акцыі. **8. Яўген Сувораў** - суд Цэнтральнага раёна Гомеля прысудзіў 5 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у народнай акцыі. **9. Валерый Хамутоўскі** (Рэчыца) - суддзя суду Цэнтральнага раёна г. Гомеля Алена Цалкова прысудзіла 2 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у народнай акцыі. **10. Віталь Іцко** - суд Цэнтральнага раёна Гомеля прысудзіў 3 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у народнай акцыі. **11. Працэнка Ірына** - суд Цэнтральнага раёна Гомеля прысудзіў 3 базавых велічынь штрафу за ўдзел у народнай акцыі.

*Ліпень 6* - **Няпомняшчых Уладзімір Міхайлавіч** - суддзя Чыгуначнага раёна Гомеля Ілья Свірыдаў прысудзіў 5 базавых велічынь штрафу за заклікі да ўдзелу ў народнай акцыі.

*Ліпень 7* - **Усціменка Руслан Аляксандравіч** - суддзя суду Цэнтральнага раёна г. Гомеля Алена Цалкова паўторна прысудзіла 15 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у народнай акцыі, у выніку чаго малады чалавек правядзе ў ІЧУ 30 сутак.

# Гомельскі флэшмобер правядзе месяц у ізалятары



У абодвух выпадках суддзя Цэнтральнага раёну Гомеля Алена Цалкова прызнала Руслана Усціменку вінаватым у парушэнні артыкула 17.1  лаянка ў грамадскім месцы. І пакарала яго арыштамі па 15 сутак.

7 ліпеня судовае пасяджэнне праходзіла ў закрытым фармаце. Суддзя не пусціла ў залю суда нават маці затрыманага.

**Дзяўчына каля суда:**

- Тое, што нават не пусцілі маці на працэс, кажа не толькі пра парушэнне нейкіх працэсуальных нормаў. Былі парушаныя нормы маралі. Мала таго, што суддзя двойчы пакарала чалавека 15 суткамі, дык яна яшчэ не пусціла маці на працэс. Гэта ўжо паводзіны жывёлаў.

**Віктар Адзіночанка, БХК:**

*- Сённяшняя працэдура выходзіць за ўсе межы. Пры нас прапаршчык патэлефанваў суддзі Алене Цалковай, і тая дала загад не пускаць нас на працэс.*
*У законе ёсць артыкул, дзе пералічваюцца выпадкі, калі судовае пасяджэнне лічыцца закрытым. Дадзены суд пад гэты артыкул не трапляе. То бок суддзя фактычна дала незаконны загад. Тое, што Руслану двойчы далі 15 сутак  гэта празмерная жорсткасць. Яго проста хочуць растаптаць.*

Руслан Усціменка  сеціўны актывіст, якога за апошні месяц трэці раз караюць за ўдзел у флэшмобе “Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі”.

**Мікола Бянько, Радыё Рацыя, Гомель**

## Штраф за футболку з надпісам




Супрацоўнікі службы аховы  прапаршчык міліцыі Валянцін Гарбачоў і малодшы сяржант Рустам Ісмайлаў  затрымалі спадара Няпомняшчых на вуліцы Перамогі на прыпынку грамадзкага транспарту. На Ўладзімеры была футболка з надпісамі: наперадзе: "19 сьнежня 2010 году  крывавая нядзеля", на сьпіне: "Далоў фашызм!".Уладзімера адвезьлі ў Чыгуначны РАУС, а пасьля  у ізалятар часовага ўтрыманьня.

Яго абвінавацілі паводле артыкула 23.34 КаАП парушэньне парадку арганізацы ці правядзеньня масавага мерапрыемства. Малодшы супрацоўнік унівэрсытэту транспарту Уладзімер Чумакоў сьведчыў у судзе, што Няпомняшчых нібыта агітаваў мінакоў на Прывакзальнай плошчы ўзяць удзел 6 ліпеня ў "маўклівай" акцыі пратэсту. Але асабліва не спадабаўся 34-гадоваму малодшаму супрацоўніку надпіс на футболцы "Далоў фашызм!".

Няпомняшчых, у сваю чаргу, адказаў, што ніяк ня мог напісаць вітаньне такой агіднай зьяве, як фашызм.Уладзімера Няпомняшчых, дарэчы, былога афіцэра міліцыі, затрымлівалі за розныя надпісы на футболцы шэсьць разоў. І вось цяпер аштрафавалі, абвінаваціўшы, аднак, у парушэньні парадку арганізацыі масавага мерапрыемства.

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.